*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 41 (4499)**

22 мая 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мов ах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Шаноўныя сябры!*
*Не забудзьце падпісацца на «Народную Волю» на другую палову 2020 года!*

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Як вырвацца з заганнага кола?

Былы кіраўнік "Белгазпрамбанка" Віктар Бабарыка несумненна стаў самай яркай фігурай на старце прэзідэнцкай кампаніі. Другі нечаканы прэтэндэнт – экс-дыпламат і стваральнік Парка высокіх тэхналогій Валерый Цапкала меней актыўны, ды і ініцыятыўная група ў яго аказалася вельмі сціплай: 884 чалавекі. Бабарыка ж зарэгістраваў каманду з 8905 чалавек. Болей толькі ў Аляксандра Лукашэнкі. Але ж той мае ўсе рычагі, а экс-банкір сабраў армію валанцёраў за лічаныя дні праз інтэрнэт.

У частцы палітызаваных карыстальнікаў сацыяльных сетак выхад Цапкалы і асабліва Бабарыкі на электаральную арбіту спарадзіў пэўную эйфарыю. Адчуваецца, што публіка засумавала па свежых персонах. Традыцыйная ж апазіцыя ў гэтай кампаніі правалілася. Бясслаўны канец напаткаў задуму праймерыз, іх былыя ўдзельнікі зарэгістравалі мінімальныя, дзеля блізіру, ініцыятыўныя групы і нават не маюць намеру збіраць подпісы. Маўляў, будзем праз пікеты прасоўваць лозунг "За Беларусь без дыктатуры!".

Але голыя лозунгі, здаецца, ужо мала каго кранаюць. Таксама незразумела, як будуць разварушваць масу ва ўмовах эпідэміі прыхільнікі вулічных пратэстаў. І байкот у сённяшніх умовах не мае шанцаў, атрымаецца хіба што вялы ігнор.

Бабарыка ж, з аднаго боку, дае зразумець, што цяперашні парадак рэчаў яму зусім недаспадобы, паказвае сябе прыхільнікам перамен, рэформаў, але з іншага боку – супраць канфрантацыі. Мае вялікі досвед на кіроўнай пасадзе. І гэта можа імпанаваць немалой частцы выбаршчыкаў. Многіх беларусаў відавочна дасталі змрочныя рэаліі сённяшняга жыцця, аднак ісці, умоўна кажучы, украінскім шляхам яны не хочуць.

А якім жа тады? Пытанне пра шлях да перамен застаецца вісець у паветры. Адказ на яго, можа, нават важнейшы, чым прыгожая праграма кандыдата. Не такая ўлада ў Беларусі, каб проста так саступіць стырно. Сам падлік галасоў – патаемная, непразрыстая дзея. Звыш таго, і сілавы кулак у рэжыму моцны. Непрадуманая Плошча, як паказаў 2010 год, таксама можа прывесці да трагедыі, яшчэ большага расчаравання. Заганнае кола.

Ці разумее новаспечаны палітык Бабарыка, што ўвязваецца ў жорсткую гульню? Ці мае стратэгію супраць фальшавання, ці бачыць механізмы, як абараніць гіпатэтычную перамогу альтэрнатыўнага кандыдата?

Ва ўсякім разе, некаторыя заявы былога банкіра на першай прэс-канферэнцыі 20 мая выглядалі наіўнымі ці бездапаможнымі. У прыватнасці, на ягоную думку, "*Цэнтральная выбарчая камісія абараняе заканадаўства Рэспублікі Беларусь і грамадзян пры галасаванні*". А вось яшчэ: "*Я не іду на вайну, я іду ўдзельнічаць у выбарах у Рэспубліцы Беларусь… Я лічу, што фальсіфікаваць волю народа не можа ніхто*". Таксама ён назваў імавернасць масавых рэпрэсій "міфатворчасцю".

Але ж чаму такі нібыта белы і пухнаты ЦВК упарта адмаўляецца паказваць пры падліку назіральнікам кожны бюлетэнь? І ці пусцяць сёлета тых назіральнікаў на ўчасткі ўвогуле (мо скажуць: вірус, ад вінта!). Што ж да рэпрэсій, то лёсы Міхаіла Чыгіра, Міхаіла Марыніча, Аляксандра Казуліна сведчаць: з тымі, каго рэжым трактуе як перабежчыкаў, і іх прыхільнікамі могуць разабрацца вельмі сурова.

Наўрад ці пан Бабарыка такі наіўны. Болей імаверна, што ён хітруе, не хоча выглядаць радыкалам, каб не насцярожыць ні ўладу, ні выбаршчыкаў. Тактыку можна зразумець. Але занадта абцякальнымі, бяззубымі адказамі, у тым ліку і ў пытаннях абароны незалежнасці, мовы, нацыянальнай гісторыі і сімвалаў, гэты палітычны неафіт ужо расчараваў частку апазіцыйна настроенага электарату.

Вы скажаце: дык ён разлічвае найперш на іншыя слаі – наменклатуру, бізнесоўцаў, шараговых абывацеляў, якія і перамен хочуць, але і каб усё прайшло без узрушэнняў. Так, немалая частка наменклатуры пэўна ж хацела б меней жорсткага кіраўніка дзяржавы, болей эканамічных свабод, але яна запалоханая. Тое ж можна сказаць і пра бізнес. А шараговая публіка можа адчуць нават класавую варожасць, калі дзяржаўныя медыі пакажуць, у якім палацы жыве былы банкір.

Зрэшты, а наколькі сур'ёзна мяркуе ён змагацца за электарат, кідаць пальчатку сістэме? Частка каментатараў трактуе Бабарыку як праект уладных паліттэхнолагаў. Маўляў, паколькі радыкальную апазіцыю да выбараў на гарматны стрэл не падпусцяць, то трэба нехта такі, памяркоўна-прагрэсіўны, каб яны не выглядалі зусім ужо ўбогім спектаклем.

Не буду займацца канспіралогіяй. Зазначу толькі: нават той, каго абралі спарынг-партнёрам, можа стаць небяспечнай для ўлады фігурай, калі раптам пачне крута набіраць папулярнасць проста за кошт таго, што людзі стаміліся ад шматгадовага кіравання аднаго чалавека, пры якім краіна стала спаўзаць у стагнацыю.

Але што далей? Была ці не была нейкая дамова, у кожным разе кіроўная вярхушка можа зрэзаць неўпадабанага персанажа на этапе рэгістрацыі кандыдатаў. Ці так "элегантна" падлічыць галасы, што гэты канкурэнт застанецца з носам, вартымі жалю працэнцікамі. На пытанне, як гэтаму супрацьстаяць, ці, калі сфармуляваць іначай, – як вырвацца з заганнага кола, у спадара Бабарыкі адказу відавочна няма.

Зрэшты, не толькі ў яго аднаго. Мы ўсе ў гэтым заганным коле. Але калі не шукаць адказ на гэтае пытанне, то, бадай, не варта і ўвязвацца ў палітычныя гульні.

# В Беларуси начался сбор подписей

## в поддержку претендентов на высший пост в стране.



**СКАЗАНО!**

***Виктор БАБАРИКО:***



*«Категорически против, что президент – вождь… Вождю нужны массы, а мы – народ, нам нужен менеджер».*

***

*«Будет независимость – будут белорусский язык, герб, флаг».*

***Валерий ЦЕПКАЛО:***



*«Главная задача – сделать экономически сильным государство, тогда будет и все остальное».*

**ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ**

## Их осталось 15

*Такого никогда не было: на первом этапе на президентский пост претендовало 55 человек. После того, как их заявки были рассмотрены Центральной избирательной комиссией, список сократился почти в четыре раза – собирать подписи разрешено только 15 претендентам на должность президента Республики Беларусь.*

*На фото – претенденты, инициативные группы которых зарегистрированы и приступают к работе.*

*Важнейшая политическая кампания покажет, кому под силу собрать сто тысяч подписей, а кто досрочно сойдет с соревновательной дистанции.*



***Александр Лукашенко,** действующий глава государства.*



***Олег Гайдукевич,** председатель Либерально-демократической партии.*



***Юрий Ганцевич,** фермер из Гомельского района.*



***Владимир Непомнящих,** член Объединенной гражданской партии.*



***Наталья Кисель,** заместитель директора ЧТУП «Кисель В.В.».*



***Виктор Бабарико,** бывший председатель правления «Белгазпромбанка».*



***Валерий Цепкало,** экс-руководитель Парка высоких технологий, бывший чиновник и дипломат;*



***Сергей Черечень,** председатель партии «Белорусская социал-демократическая Грамада».*



***Ольга Ковалькова,** сопредседатель оргкомитета по созданию партии «Белорусская христианская демократия».*



***Анна Канопацкая,** бывший депутат Палаты представителей.*



***Андрей Дмитриев,** сопредседатель общественного объединения «Говори правду».*



***Светлана Тихановская,** супруга видеоблогера Сергея Тихановского.*



***Александр Таболич,** лидер музыкальной группы Znich.*



***Юрий Губаревич,** председатель движения «За Свободу».*



***Николай Козлов,** и.о.председателя Объединенной гражданской партии.*

**ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ**

## Выжыць можна толькі разам з «Народнай Воляй»!

Ну павінна ж перад вашымі вачыма быць нешта такое, што здольна адцягнуць увагу ад змрочных думак у гэты няпросты час! Пагадзіцеся, "Народная Воля" якраз і з'яўляецца такой газетай – калі пачынаеш чытаць яе матэрыялы, то забываешся пра ўсё на свеце. Атрымліваецца, што выжыць падчас каранавіруснай пандэміі можна толькі разам з "Народнай Воляй". Вось чаму кожны яе нумар трымаюць у руках акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Радзім Гарэцкі, экс-міністр аховы здароўя Ігар Зелянкевіч, знакаміты эканаміст і прамысловец Васіль Шлындзікаў, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, былы віцэ-прэм'ер Станіслаў Брыль і многія-многія іншыя славутыя людзі.

Нагадваем: да 27 мая яшчэ можна падпісацца на "Народную Волю", з тым каб атрымліваць яе з 1 чэрвеня. Адначасова поўным ходам ідзе падпіска на другую палову 2020 года. Калі ёсць цяжкасці з фінансамі, аформіць падпіску можна на любы тэрмін – на месяц, два, тры… Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".

Ёсць таксама магчымасць аформіць падпіску на «Народную Волю» і не выходзячы з дома. Для гэтага трэба на сайце **belpressa.by** запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату **праз сістэму Webpay** банкаўскай карткай ці **праз сістэму «Расчет» (АРІП)**. У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт **«Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка».** Для аплаты трэба ўвесці нумар рахунка, атрыманага на сайце **belpressa.by**. Зрабіце плацеж.

Будзе ў вашых руках "Народная Воля" – заўжды ў Вас будзе добры настрой!

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

АФІЦЫЙНА

# Міністэрства аховы здароўя паведамляе…

*Па стане на 21 мая 12.057 пацыентаў, у якіх раней быў дыягнаставаны COVID-19, паправіліся і былі выпісаны са шпіталяў.*

*Зарэгістраваны 33.371 чалавек са станоўчым тэстам на COVID-19. Усяго было праведзена 403.236 выпрабаванняў.*

*За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі ў краіне памерлі 185 пацыентаў з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй.*



ПАЗІЦЫЯ

# Юрась Губарэвіч не будзе хадзіць па кватэрах і збіраць подпісы



*Гэтую інфармацыю ён пацвердзіў "Народнай Волі".*

– Я агучу нашу супольную пазіцыю з Мікалаем Казловым і Вольгай Кавальковай: збор подпісаў ва ўмовах пандэміі – гэта злачынства, – *сказаў "Народнай Волі" прэтэндэнт на прэзідэнцкае крэсла і старшыня руху "За Свабоду"*. – І я шчыра лічу, што людзі не павінны адчыняць дзверы зборшчыкам подпісаў, каб не падвяргаць сябе рызыцы заразіцца COVID-19. Бо зборшчыкі подпісаў, якім давядзецца кантактаваць у разгар эпідэміі са мноствам людзей без гарантыяў санітарнай бяспекі, проста ператворацца ў хадзячую біязброю. У выніку аркушы з подпісамі грамадзян трэба будзе перадаваць не ў выбаркамы, а ў інфекцыйныя аддзяленні нашых клінік.

**– Вы думаеце, што магчыма сабраць 100 000 подпісаў толькі падчас пікетаў?**

– Перыяд збору подпісаў прыпадае на самы пік эпідэміі. Якраз учора А.Лукашэнка заявіў, што як мінімум месяц мы яшчэ будзем змагацца з каранавірусам, і што нам трэба гэты месяц пратрымацца. І ў дадзенай сітуацыі шанцы ва ўсіх прэтэндэнтаў сабраць 100 000 подпісаў роўныя нулю.

**– Дык што вы прапануеце? Увогуле не збіраць подпісы ці што? Ці чакаць, пакуль іх намалююць?**

– Выбары павінны быць перанесены і праведзены пасля эпідэміі.

**– Вы верыце, што гэта рэальна?**

– Такое самае пытанне мне задавалі ў Цэнтрвыбаркаме і казалі, што перанесці выбары магчыма, калі будзе аб'яўлена надзвычайнае становішча. Але ёсць і іншыя легальныя способы прызнаць выбары неадбыўшыміся.

Я не прызываю да байкоту ў класічнай форме. Але выступаю за тое, каб выбары адбыліся, але не ва ўмовах эпідэміі.

Ад беларускага грамадства у гэтым сэнсе таксам шмат чаго залежыць. Калі людзі не будуць адчыняць дзверы зборшчыкам подпісаў, калі не пойдуць на пікеты, выбары не адбудуцца ўжо на гэтым этапе. І калі людзі не пойдуць на выбарчыя ўчасткі, яны таксама не адбудуцца.

Дарэчы, большасць кандыдатаў, на якіх сёння некаторыя робяць стаўку як на рэальных апанентаў Лукашэнкі, не маюць адказу на пытанне, а што рабіць, калі выбары ў нас пройдуць як звычайна.

Марына ВІШНЕЎСКАЯ.

ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ

## Александр ЯРОШУК:

# «Профсоюзы – не боевой отряд оппозиции»

*В 2004 году в «Народной Воле» было опубликовано коллективное письмо в поддержку политика и профсоюзного лидера Александра Ярошука, заявившего о создании гражданского комитета в защиту Конституции.*

*А что сегодня с этим комитетом?*

– Этот комитет создавался накануне известного референдума об отмене ограничений по срокам избрания на пост президента страны, – *напоминает «Народной Воле» Александр Ярошук*. – Мы призывали не идти на нарушение Конституции, чтобы не было возможности узурпировать власть. Но, понятное дело, все наши потуги защитить Основной закон к какому-то результату не привели, референдум состоялся. В комитет входило много известных персон – например, режиссер Игорь Добролюбов и художник Гавриил Ващенко, ныне покойные, философ Вячеслав Оргиш, было также много других людей. А после референдума комитет автоматически прекратил свое существование – дальнейшего смысла в его деятельности не было.




**– Сейчас снова собираются менять Конституцию, но какие изменения будут внесены на этот раз – пока публике не известно. Может, имеет смысл снова возродить ваш комитет?**

– Не знаю. Как говорится, дважды в одну реку не входят. Думаю, сейчас создание подобного комитета будет воспринято как попытка попиариться. А мне дешевый пиар не нужен.

**– Александр Ильич, а почему вы не пошли в президенты? Ходит слух, что вы активно искали финансирование и даже пытались заручиться поддержкой Москвы, но звезды не сошлись… Это правда?**

– Можно я не буду отвечать на этот вопрос?..

Могу сказать лишь, что существует публичная часть политики и кулуарная. И у меня действительно есть друзья в Москве. Хотя настоящих выборов у нас давно нет, но большой ошибкой было бы игнорировать их в текущем году. Потому что ныне действующий президент как никогда слаб. И я совершенно убежден, что Лукашенко на этот раз не одержит электоральной победы, впервые с 1994 года.

**– Вы прогнозируете второй тур президентских выборов?**

– Я не о втором туре, а о том, что может сложиться ситуация, которая случилась в Югославии 20 лет назад. Цифры Милошевичу нарисовали, его объявили победителем, но общество отчетливо понимало: Слободану конец, время его ушло. И вместе с ним бесславно закончил карьеру Милошевич. Так может быть и с Лукашенко.

Я не однажды заявлял, что его решение об участии в выборах в шестой раз может стать его роковой ошибкой. Поэтому я так настойчиво призывал оппозицию объединиться и выдвинуть единого кандидата, которого невозможно было бы не зарегистрировать. Складывалась уникальная ситуация для победы, пусть поначалу и электоральной. К сожалению, объединиться не получилось

**– Но при этом вы с самого начала не верили, что оппозиция сможет договориться между собой по поводу одного. И, кстати, оказались правы.**

– Это уже вопросы к тем, кто выдвигался. Получилось то, что получилось.

**– А что скажете про намерение идти в президенты Цепкало и Бабарико? Насколько они самостоятельны?**

– Не просто уверен, а знаю, что за ними не стоит ни власть, ни Россия. Цепкало власть унизила, у него амбиции. Бабарико – просто неравнодушный к судьбе страны человек, как мне кажется.

Я, кстати, не знаком лично ни с одним, ни с другим.

**– На ваш взгляд, способны ли будут эти кандидаты мобилизовать людей, если слишком явными будут манипуляции с результатами выборов и понадобится отстоять голоса избирателей?**

– Сейчас трудно об этом говорить. Еще большой вопрос, будут ли зарегистрированы Цепкало и Бабарико. Потому что риски огромные!

И Лукашенко, думаю, знает про свой низкий рейтинг, который уже ничем не поднять. Бабарико и Цепкало сегодня одни из самых реальных соперников действующего президента и способны не только лишить Лукашенко электоральной победы, но и одержать ее сами.

**– Кого будут поддерживать на президентских выборах независимые профсоюзы?**

– Перед нами никогда такая задача не стояла, и мы никогда не делали заявлений о том, кого мы будем поддерживать.

**– А вот глава Федерации профсоюзов Беларуси определился со своим кандидатом на этих выборах. Он возглавил избирательный штаб Александра Лукашенко.**

– Флаг ему в руки!

Михаил Орда – чрезвычайно приближенный к президентской семье человек. Это, мне кажется, многое объясняет. Поэтому и использует статус фаворита на полную катушку…

**– Александр Ильич, а вам не кажется, что сегодня как-то стала совсем незаметна роль независимых профсоюзов? Многие из-за коронавируса остались без работы, есть проблемы с зарплатами на предприятиях…**

– Мы приняли целый ряд острых заявлений с требованиями поддержки трудящихся, в том числе потерявших работу, повышения пособия по безработице, сохранения рабочих мест. Которые традиционно властью были проигнорированы…

**– И толку от этих заявлений? Раньше были какие-то митинги, акции протеста…**

– Ну какие митинги могут быть в этих условиях? Это Лукашенко субботники и парады устраивает в разгар пандемии. Неужели вы думаете, что нужно уподобляться ему и митинги собирать? Как вы себе это представляете? Кем сочтут меня, если я сегодня буду звать людей на митинги?

К тому же давно нужно понять, что профсоюзы никому ничего не должны. Если кто-то считает, что профсоюзы – это боевой отряд оппозиции, то он глубоко ошибается. У нас другие задачи. Люди захотели отстаивать свои права – объединились в профсоюзы. Теперь некому выступать в защиту прав трудящихся, кроме независимых профсоюзов. И все, что зависит от нас, мы делаем. Даже в этих непростых условиях.

Марина КОКТЫШ.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «Я быў апошні, хто іх бачыў…»

*Гомельскі валанцёр Андрэй СТРЫЖАК распавёў «Народнай Волі» пра апошні дзень загінуўшых рэжысёра Уладзіміра Міхайлоўскага і мастака-гукарэжысёра Максіма Гаўрыленкі.*

У Гомелі дакументалісты здымалі фільм пра тое, як валанцёры дапамагаюць медыкам у барацьбе з каранавірусам. Па дарозе ў Мінск іх машына трапіла ў аварыю. Рэжысёр **Любоў Зямцова** ў цяжкім стане знаходзіцца ў бальніцы. **Уладзімір Міхайлоўскі** і **Максім Гаўрыленка** загінулі...

*«Больш за два тыдні каманда дакументалістаў працавала ў Мінску, а я з імі пазнаёміўся ў дзень трагедыі – 14 мая*, – кажа праваабаронца і валанцёр кампаніі BYCOVID19 **Андрэй Стрыжак**. – *Хаця з Валодзем Міхайлоўскім мы перапісваліся раней, ён казаў, што хоча зняць фільм пра нашу працу.*

*Якраз у той момант у нас было запланавана «падарожжа вакол свету» – так мы называем канвоі, якія выязджаюць з Мінска, каб адразу «адпрацаваць» шмат кропак па дастаўцы медыкам таго, што мы назбіралі.*

*Гэтым разам канвой з гуманітарнай дапамогай адпраўляўся ў Гомельскую вобласць, і дакументалісты сказалі, што могуць груз прывезці на сваёй машыне. Заадно хацелі зняць матэрыял для фільма, пагутарыць з людзьмі…»*



Рэжысёры прыехалі ў Гомель каля 11.00 і пачалі развозіць з валанцёрамі «гуманітарку».

*«Мы праехалі з імі па чатырох бальніцах, –* успамінае наш суразмоўца. *– Я распавёў на камеру пра саму ідэю кампаніі, пра тое, чым займаемся і хто працуе ў нашай камандзе. І ўжо калі выязджалі з апошняй бальніцы, Уладзімір Міхайлоўскі сказаў мне: «За гэтыя дні я настолькі прасякнуўся гэтай тэмай, што думаю пасля таго, як закончым працу над фільмам, таксама падацца ў валанцёры».*

*У той дзень я спяшаўся дадому, бо ў 16.00 у мяне павінна была адбыцца анлайн-канферэнцыя. Коратка, але цёпла развіталіся з гасцямі і дамовіліся, што на наступны дзень яшчэ раз сустрэнемся ў Мінску. Я быў апошні, хто іх бачыў…»*

Так сталася, што **Кацярына Гаўрыленка** – каардынатар кампаніі BYCOVID19 па Гомельскай вобласці – маці Максіма Гаўрыленкі.

*«На наступны дзень я даведаўся, што сын Кацярыны загінуў у ДТП, –* працягвае Андрэй Стрыжак. *– Спачатку нават не падумаў, што менавіта ён быў мастаком-гукарэжысёрам, з якім працавалі напярэдадні, але, калі ўсё стала вядома, то мы ўсе былі ў шокавым стане. Ад стрэсу на пэўны час нават прыпынілася работа нашай каманды.*

*Давялося займацца арганізацыяй пахавання Валодзі Міхайлоўскага ў Бабруйску, затым трэба было ехаць на пахаванне Максіма ў Мінск. Гэта было вельмі цяжка, і я тады зразумеў: больш за два пахаванні ў дзень я проста не вытрымаю…*

*Толькі на гэтым тыдні адышлі псіхалагічна ад таго, што здарылася, і наша каманда зноў пачала паўнавартасна працаваць».*

Алесь СІВЫ.

**На здымку: Уладзімір Міхайлоўскі і Максім Гаўрыленка.**

ГРОШЫ

# Чаму абваліліся долар і еўра?

*Старшы аналітык кампаніі "Альпары" Вадзім Іосуб патлумачыў, чаму ўчора беларускі рубель значна ўмацаваўся да еўрапейскай і амерыканскай валюты.*

21 мая беларускі рубель адкінуў долар і еўра на той мінімум, што быў два месяцы таму. Курс долара знізіўся адразу на 0,0231 рублі да 2,3856 рубля за долар. Курс еўра зменшыўся на 0,0209 рублі да 2,6156 рубля за еўра.

– Беларускі рубель умацаваўся да долара і еўра выключна таму, што такое ж умацаванне адбылося і з расейскім рублём, - кажа эксперт. – Справа толькі ў ваганнях на расейскім валютным рынку, таму ў нас кошт валютнага кошыка практычна не змяніўся.

У сваю чаргу такія ваганні валюты ў Расеі шмат у чым звязаны з ростам цаны на нафту, якая ўжо каля 37 даляраў за барэль. Па сутнасці, зараз расейскі валютны рынак адыграў тое падзенне, якое адбылося ў сакавіку.

**– Якія далейшыя перспектывы для беларускага рубля?**

– Як ужо казаў, дынаміка ўмацавання нацыянальнай валюты – следства роста цаны на нафту. Калі кошт нафты працягне расці, то будзе расці і беларускі рубель. Але зараз даваць больш-менш доўгатэрміновыя прагнозы па нафце адволі складана.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

КАСЦЁЛ

# У Беларусі прызначаны новы апостальскі нунцый

*Папа Рымскі прызначыў новым апостальскім нунцыем у Беларусі харвацкага іерарха, арцыбіскупа* **Антэ Ёзіча**. *Аб гэтым паведамляе «Ватыканскае радыё».*

Антэ Ёзіч нарадзіўся 16 студзеня 1967 года ў горадзе Трыль. Святарскае пасвячэнне атрымаў у 1992 годзе ў складзе Спліцкай архідыяцэзіі. У 1995-м пачаў рыхтавацца да дыпламатычнай службы ў Папскай касцельнай акадэміі. З 1999 года працаваў у Апостальскай нунцыятуры ў Індыі. Потым з 2003-га па 2009-ы быў сакратаром нунцыятуры ў Расіі. У 2009-м стаў дарадцам па нунцыятуры ў Філіпінах.



2 лютага 2019 года Папа прызначыў яго апостальскім нунцыем у Кот-д'Івуары і тытулярным арцыбіскупам Цысы. Біскупскае пасвячэнне яму павінен быў уручыць 1 мая летась кардынал дзяржсакратар П'етра Паралін. Аднак 7 красавіка 2019 года іерарх трапіў у аўтамабільную аварыю каля Спліта, пасля якой апынуўся ў бальніцы ў крытычным стане.

22 студзеня 2020 года арцыбіскуп Ёзіч сустрэўся з Францішкам. Біскупская сакра павінна была адбыцца 21 сакавіка ў базіліцы Святога Пятра, аднак яна была перанесена з прычыны пандэміі COVID-19.

Арцыбіскуп Ёзіч зменіць на пасадзе апостальскага нунцыя ў Беларусі венгерскага арцыбіскупа Габара Пінтэра.

ДУРНОЦЦЕ

# Жыву ў Зэльве на Zhebrack Strett

Улады Зэльвы назвы вуліц у гарадскім пасёлку напісалі на рускай і англійскай мовах. Падобных новаўвядзенняў няма не тое што ў іншых раённых гарадах, а нават і ў абласных. Беларуская мова, якая з'яўляецца дзяржаўнай і мовай беларускага этнасу, у Зэльве аказалася непатрэбнай.

Спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Дзмітрый Сухалет** патлумачыў "Народнай Волі", што ў сувязі з развіццём турыстычнай дзейнасці ў гарадскім пасёлку было прынята рашэнне на цэнтральных вуліцах напісаць назвы і на англійскай мове.

Што датычыцца надпісаў па-руску, то, паводле слоў чыноўніка, ён памятае іх з дзяцінства. А наконт таго, што дзяржаўная мова і мова тытульнай нацыі наогул адсутнічае, чыноўнік па сутнасці нічога не змог патлумачыць.

На пытанне, хто прымаў рашэнне аб напісанні назваў вуліц па-руску і па-англійску, Сухалет дакладна нічога не адказаў: маўляў, шыльды развешвалі работнікі камунальнай гаспадаркі.

Праўда, сам ён асабіста быў бы не супраць таго, каб яшчэ была і беларуская мова, бо размаўляе па-беларуску і нават скончыў беларускую школу. Але, маўляў, "*калі будзе дадзена даручэнне, то будуць зроблены і высновы*"... Адным сказам, але за ўсё наша чынавенства адказаў аб стаўленні да беларускай мовы.

А пакуль няма даручэння, то "*напішыце на наш адрас пісьмовы запыт, і мы вам адкажам*".

Як у тым савецкім анекдоце: прайшла зіма, настала лета – дзякуй партыі за гэта...

**Міхал КАРНЕВІЧ.**




ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Уладзімір НЯПОМНЯШЧЫХ:
# «Я ўсё жыццё змагаюся са злачыннасцю…»

*У Цэнтрвыбаркаме адной з першых была зарэгістравана ініцыятыўная група 68-гадовага гомельскага пенсіянера, які таксама прэтэндуе на пасаду прэзідэнта.*



– Я нарадзіўся ў Магілёве ў 1952 годзе, – *распавядае пра сябе Уладзімір Міхайлавіч*. – Пасля школы служыў у ГДР у войсках спецназа. Паводле недакладнай інфармацыі, у нашай часці была таксама група, якая займалася ліквідацыяй вядомых палітычных дзеячаў.

Пасля заканчэння службы пэўны час адпрацаваў токарам на заводзе «Строммашына», а затым паступіў у Магілёўскую сярэднюю спецыяльную школу транспартнай міліцыі. Яшчэ пазней пайшоў на завочнае аддзяленне Мінскай вышэйшай школы МУС СССР. Практычна карыстаўся тымі ведамі, што атрымаў у школе транспартнай міліцыі.

**– А затым вас накіравалі працаваць у Гомель?**

– Так, хаця я хацеў застацца ў Магілёве, бо там мне свяціла атрымаць разам з бацькамі кватэру. Але, як кажуць, загады не абмяркоўваюцца.

Адправілі ў лінейны аддзел міліцыі аэрапорта Гомель, і пазней я быў вельмі задаволены, што лёс склаўся менавіта так. Там быў цудоўны калектыў і такі ж кіраўнік.

Першым часам працаваў на пасадзе інспектара крымінальнага вышуку па захаванні бяспекі палётаў. Затым прызначылі старшым інспектарам, у мяне было шэсць падначаленых. У працэсе дагляду я ажыццяўляў негалоснае назіранне за паводзінамі пасажыраў.

Праз нейкі час мне прапанавалі пасаду інспектара аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі, і, шчыра прызнаюся, спачатку я занадта актыўна змагаўся за кожную капейку. Пасля ўжо і вопыт прыйшоў, і старэйшыя калегі падказалі, што такая актыўнасць – не заўсёды добра, і за дробязь людзей я ўжо не караў.

А закончыў службу на пасадзе інспектара крымінальнага вышуку. З 1992 года я на пенсіі.

**– Ведаю, што вы таксама займаліся прадпрымальніцтвам…**

– Так, мы з жонкай адкрылі некалькі гандлёвых кропак, але ўсё закончылася дрэнна. Кантралюючыя органы забралі ў мяне тавару на 500 долараў, а ў 1990-я гады гэта былі вялікія грошы. Склалі пратакол, накіравалі справу ў суд, і на судзе я даказаў, што маёй віны няма. Але суддзя прыняў «саламонава рашэнне» – адміністрацыйны працэс у дачыненні да мяне спынілі за малазначнасцю парушэнняў. Так бы мовіць, і не пакаралі, і не апраўдалі.

Але калі я захацеў забраць свой канфіскаваны тавар, то ўбачыў, што там зусім іншыя рэчы. Мае новыя рэчы замянілі старымі, якія ўжо нехта насіў.

Звяртаўся і ў падатковую інспекцыю, пісаў заявы ва ўсе іншыя інстанцыі, але адказ быў прыкладна такі: вы не можаце даказаць, што гэта не ваш тавар, таму ціхенька маўчыце і будзьце задаволены жыццём.

Я вам шчыра скажу, што да таго моманту я ніколі асабліва не цікавіўся палітыкай, але затым вырашыў для сябе, што злачынцаў ва ўладзе трэба выкрываць. Я ўсё жыццё змагаўся са злачыннасцю, таму нічога новага для мяне ў гэтым няма.

Я стаў сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі, з 2000-х гадоў рэгулярна ўдзельнічаў у акцыях пратэсту, за што мяне шмат разоў штрафавалі і адпраўлялі на суткі.

Таксама раней браў удзел і ў мясцовай выбарчай кампаніі, і ў парламенцкай. Неадназова працаваў назіральнікам на выбарах. А вось у прэзідэнты іду ўпершыню.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРЫГОДЫ БЕЛАРУСА ЗА МЯЖОЙ

# Паміж Гродна і Ла-Маншам

*Гісторыю беларуса, якога жыццё змусіла шукаць працу ў суседняй Польшчы, «Народная Воля» вырашыла распавесці дзеля таго, каб тыя з нашых чытачоў, хто выязджае за мяжу на заробкі, памяталі, што лепш гэта рабіць афіцыйна, праз законныя фірмы, а не самастойна шукаць сабе непатрэбных прыгод.*

### «Нічога не заставалася, як ехаць і шукаць працу...»

**Сяргею Рэмезаву** яшчэ няма і пяцідзесяці гадоў. Ён, што называецца, у самым росквіце сіл. У яго сям'я, дзве дачкі-старшакласніцы і маці, якая пастаянна патрабуе лячэння.

Амаль 20 гадоў Сяргей працаваў на рынку – дробны гандаль. Формула простая: цягаў з Масквы кітайскі тавар і прадаваў у Гродна. За гэта жыў, вучыў сваіх дзяўчынак, лячыў маці, нават ездзіў з жонкай на мора ў адпачынак.

Але вось ужо некалькі гадоў, як грошай у сям'і не стае нават на самае патрэбнае. Гандаль практычна спыніўся, беларускі эканамічны псеўдацуд у адзін момант рассыпаўся, і застаўся толькі заробак жонкі – 350 рублёў. Яшчэ меншая пенсія ў маці, а працы, каб зарабіць на сям'ю, няма. Да таго ж усе жывуць у адной двухпакаёвай кватэры.

«*Мы цяпер з жонкай глядзім, каб хаця б у дачок усё было,* – распавядае мужчына. – *Сабе новых рэчаў не купляем, бо няма за што. А маці лекі бярэ толькі самыя танныя і беларускай вытворчасці...*»

Пасядзелі Сяргей з жонкай увечары на кухні за гарбаткай і вырашылі, што гаспадар павінен ехаць у Польшчу на заробкі. Гісторыя бярэ пачатак за некалькі месяцаў да прыходу пандэміі каранавіруса.

### Фірму знайшоў сам, але...

У Гродне пасляць чалавека на працу ў Польшчу ўжо даўно не праблема. Прапановы ад легальных фірмаў на кожным інтэрнэт-партале і ў эфіры мясцовага радыё. Праз адну з такіх наш герой і выехаў.

У Польшчы давялося пацвердзіць свае правы на кіраванне «цірам». На гэта пайшло пяць дзён у аўташколе і тысяча злотых (каля 500 рублёў). Там жа адразу прапанавалі і фірму для ўладкавання на працу. Але, як кажуць, не зраслося.

«*Гаспадар, калі пачуў, што ў мяне няма вопыту паездак па Еўропе, прапанаваў тры тысячы злотых за месяц (каля паўтары тысячы рублёў),* – згадвае Сяргей. – *Я адмовіўся адразу, паколькі за гэтыя ж грошы трэба было і харчавацца, і плаціць за жыллё*».

Той спрабаваў пераканаць: маўляў, у нас новыя машыны Volvo, Mersedes, – але Сяргей адмовіўся, патлумачыўшы: ён прыехаў у Польшчу зарабляць грошы, а не проста катацца па Еўропе.

Фірму знайшоў сам праз інтэрнэт у Мінску Мазавецкім. Чэсна сказаў, што вопыту паездак па Еўропе не мае, але прадстаўніка фірмы гэта не засмуціла, і ён прапанаваў прыехаць. Аказалася, што некалькі гадоў таму ў гэтай кампаніі працаваў знаёмы, які параіў быць пільным з гаспадарамі: маўляў, фірма не вельмі, для пачатку можна папрацаваць, але за грашыма давядзецца пабегаць.

Дакументы ў Сяргея прынялі, але, калі ён прыехаў, аказалася, што працы ў гэты момант няма. Прапанавалі бясплатнае жыллё – у бараку з клапамі, адной прыбіральняй і адным душам на 16 чалавек. Паколькі ўсіх без выключэння кусалі клапы, то кіроўцы начавалі ў сваіх машынах, а вось у душ і прыбіральню вярталіся ў барак. Сярод іх пераважалі ўкраінцы. Беларусы былі, але пасыходзілі.

«*У падобных умовах не жыў ніколі, але паколькі грошай за гэта не бралі, а жыць трэба было за свае, то моўчкі гатаваў на маленькай кухні абед і слухаў аповеды ўкраінцаў пра тое, як іх тут эксплуатуюць*», – згадвае мой суразмоўца.

Ужо ў тым бараку Сяргею зразумеў, што лёгкіх заробкаў тут не будзе, але ў Беларусі іх наогул быць не можа, а таму трэба чакаць. Праз тыдзень адміністрацыя прапанавала паездку, але толькі ў якасці стажора.

«*Паездка была на два месяцы. Аднак самае галоўнае, што яны былі згодны браць мяне ў якасці стажора без заключэння дамовы на працу, а гэта значыць, без усякіх абавязацельстваў з іх боку,* – канстатуе Сяргей. – *Вусна сказалі, што ў дзень будуць плаціць па 20 еўра. Я быў у такой сітуацыі не першы і не апошні – усё разумеў, а таму пагадзіўся*».

### «Лягчэй сказаць, дзе за два месяцы не пабываў у Еўропе»

Еўропа ўражвала Сяргея сваёй прыгажосцю, выдатнай інфраструктурай і цёплым стаўленнем людзей. І нават маўклівы напарнік з украінскага Івана-Франкоўска, які мог падтрымаць размову толькі пасля таго, як падсілкуецца, ні кроплі не псаваў уражання.

«*Насамрэч лягчэй сказаць, дзе я не пабываў у Еўропе за гэтыя два месяцы,* – кажа Сяргей. – *Не ўдалося толькі перасячы Ла-Манш, бо ў Вялікабрытанію патрэбна віза. Іспанія, Партугалія, Францыя, Італія... Нават з кабіны «ціра» назаўсёды засталіся непаўторныя ўражанні!*»

Акрамя таго, Сяргей зразумеў, што праца дальнабойшчыка і ў Еўропе не з лёгкіх. Асабліва, калі псуецца старая машына, а начальнік з польскага гаража крычыць у тэлефонную слухаўку, што накладзе штраф за паломку.

«*Фільтры не заменены, машына бярэ больш паліва, а паляк крычаць з гаража, што за перарасход будзе плаціць кіроўца,* – успамінае мой суразмоўца. – *Яшчэ перад выездам прапанавалі надзець магніт на тахограф, каб менш адпачывалі, а ехалі і ўначы, але я адразу адмовіўся гэта рабіць*».

Не вельмі весела, кажа Сяргей, калі на стаянцы для «ціраў» кіроўцы з заходніх краін ідуць абедаць у кавярню, а ты пачынаеш на плітцы варыць што-небудзь кшталту пельменяў, бо грошай на абед папросту няма.

«*Дарэчы, звычайны абед у еўрапейскай кавярні каштуе да 15 еўра, а мне за цэлы дзень абяцалі 20. І нават тыя 50, якія абяцалі ўкраінскаму кіроўцу, – гэта не так і шмат, каб адкласці і завезці заробак дадому*».

Аднак, нягледзячы на ўсе складанасці працы, на тое, што амаль два месяцы не быў у душы, не бачыў блізкіх, недаядаў і недасыпаў, набыў досвед, якога не было. А гэта дарагога каштуе.

### Шанец даюць усім, але грошы плацяць не заўсёды

Пасля вяртання назад у Мінск Мазавецкі Сяргей з калегам прыйшлі ў адміністрацыю за заробкам. Але ім сказалі, што грошай няма, давядзецца чакаць. Праз дзень, праз тры і праз тыдзень усё паўтаралася. Даводзілася надалей карміць клапоў у бараку.

«*Яны матывавалі тым, што грошай няма, бо выплачваюць крэдыты за машыны, аддалі на паліва і рамонт,* – пераказвае Сяргей аргументы працадаўцаў. – *Начальнік нікога з кіроўцаў да сябе не дапускаў, тады я пачаў хадзіць кожны дзень да адміністратара і патрабаваць заробак*».

Грашовая палітыка фірмы, са слоў Сяргея, палягала ў тым, што заробак атрымліваюць кіроўцы, якія едуць у рэйс, а не дадому. Тым не менш Сяргею за два месяцы выплацілі 3 тысячы злотых, астатнія 1200 абяцалі пазней, але ён кажа, што больш туды не вернецца.

Яго напарнік з Украіны адправіўся ў наступны рэйс, так і не атрымаўшы заробак за папярэдні.

«*Гэта ўсё бессэнсоўна, бо мы там бяспраўныя, з такімі, як я, яны нават дамову на працу не заключаюць, а таму як ты з іх будзеш нешта патрабаваць?*» – задае рытарычнае пытанне гродзенец.

І тут жа дадае, што, з іншага боку, у Польшчы мала якія фірмы бяруць кіроўцаў без вопыту працы ў Еўропе. А тут, маўляў, прымаюць нават тых, каму і за 60 гадоў, і тых, хто першы раз сядае за руль «ціра».

«*Шанец даюць усім, але грошы плацяць не заўсёды,* – смяецца мой суразмоўца. – *Усе гэта разумеюць, спадзяюцца на чалавечнасць гаспадароў, але многія сыходзяць, так і не атрымаўшы ніякага заробку за сваю працу*».

Паводле слоў Сяргея, на фірме, дзе ён працаваў, усяго сто з невялікім машын, а за год там змянілася больш за 200 кіроўцаў. Можна толькі ўявіць, якія грошы зарабіла фірма на недаплатах наёмным работнікам.

### Пасля эпідэміі паеду на працу ў Польшчу

Неяк у Францыі на стаянцы да іх падбег кіроўца фуры на галандскіх нумарах і павітаўся па-польску. Калі разгаварыліся, абрадаваўся, што Сяргей з Гродна, – размаўляў, як з земляком. Ён і распавёў, што ў галандскай фірме зарабляе прыкладна чатыры з паловай тысячы еўра ў месяц. І гэтыя словы заселі ў галаве гродзенца блакітнай марай.

Нягледзячы на тое, што Сяргею давялося перажыць у адносінах з польскімі працадаўцамі, ён кажа, што пасля эпідэміі ўсё роўна паедзе туды на працу.

«*У Польшчы шмат сапраўдных фірмаў, дзе не падманваюць, я ўжо маю кантакты з беларусамі, якія ў такіх працуюць,* – кажа ён. – *Праўда, трэба быць моцным прафесіяналам і ведаць яшчэ пару замежных моў*».

Яму вельмі хочацца ездзіць па Еўропе, працаваць з еўрапейцамі. Ён адчуў, што гэта яго праца, проста вельмі важна патрапіць у прыстойную фірму.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**P.S.** *Па просьбе героя яго імя і прозвішча зменены.*

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Гімн Валерыі Навадворскай

Калі хто-ніхто з дамарошчаных палітыкаў навыперадкі хваліцца падтрымкай Масквы і ездзіць з візітамі ў Белакаменную, мне робіцца іх проста шкада. Я разумею, што гэтыя ваяжы разлічаны найперш на зрусіфікаваны электарат і ніякіх сур'ёзных палітычных падмуркаў пад сабой не маюць. Бо размаўляць беларускім апазіцыйным палітыкам у Маскве, па сутнасці, няма з кім. Пасядзець у прыёмнай якога-небудзь памочніка намесніка можна, а партнёрскія перамовы правесці – выбачайце: Крэмль заўсёды глядзеў і сёння глядзіць на Беларусь як на «малодшага брата». Нават пляшка «Белавежскай» і аполец сала не дапамогуць.

Справа ў тым, што ў кабінетах, пачакальнях і калідорах расійскай улады не засталося палітыкаў, якія ўспрымаюць Беларусь як раўнапраўнага партнёра, хоць бы павярхоўна ведаюць яе гісторыю і культуру, разумеюць яе курс на самасцвярджэнне. Апошнім такім палітыкам была Валерыя Навадворская, чыё нядаўняе 70-годдзе ў той жа Маскве прайшло незаўважна. І хоць яна ніколі не ўваходзіла ва ўладу, яе харызматычная прысутнасць у расійскім палітычным полі заўжды адчувалася. Яна была самым паслядоўным, бескампрамісным і бясстрашным крытыкам імперскіх памкненняў Крамля. З яе сыходам палітпалітра Расіі заўважна паблякла.

Валерыя Навадворская нарадзілася ў Баранавічах, яе продкі па мужчынскай лініі – Бурштыны – караніліся ў Вялікім Княстве Літоўскім, але дзед па кудзелі быў у Расіі *столбовым дворянином*, і Валерыя Ільінічна ўзяла сабе прозвішча маці. Пад ім і ўвайшла ў гісторыю. Але да зямлі продкаў па мячы мела пажыццёвы сентымент, падтрымлівала незалежнасць Беларусі як толькі магла.

Ведаючы пра беларускія карані Навадворскай і будучы неяк у Маскве па справах, я задумаў сустрэцца і пагутарыць з ёю. Была нядзеля. У маім нататніку знайшоўся толькі службовы тэлефон. Хто ж сядзецьме ў выхадны дзень у офісе? Яна сядзела. «Пан Міхась, прыязджайце», – і назвала адрас. Трохі збянтэжаны такім зваротам (мяне так ніхто і ніколі не называў), я паехаў на сустрэчу.

Прагаварылі мы тады доўга, было відно, што чалавек з Беларусі Валерыю Ільінічну цікавіў. У яе развагах, што мяне вельмі ўразіла, час ад часу цытаваўся верш Максіма Багдановіча «Пагоня». Гучаў ён з жудасным акцэнтам, але – *«с чувством, с толком, с расстановкой»*. Паводле пераканання маёй суразмоўніцы, беларусы мусілі ў жыцці кіравацца гэтым вершам-гімнам, бо ў ім прапісана ўся наша нацыянальная ідэя.

Помніцца, я выказаў сумненне, што ў 1950-я гады ў Баранавічах, дзе Навадворская жыла ў бабулі да 9 гадоў, вывучалі ў школах «Пагоню». Валерыя Ільінічна іранічна зірнула праз тоўстыя шкельцы акуляраў: «А колькі сёння ў Баранавічах беларускіх школ?» – «Ніводнай». – «Вы дарэмна думаеце, пан Міхась, што пасляваенныя камуністы былі большымі нацыяналістамі за сённяшніх беларускіх чыноўнікаў».

Ведаючы пра абазнанасць Навадворскай у сусветнай літаратуры, я папрасіў назваць беларускіх пісьменнікаў ды іх творы, якія вартыя прызнання ў цэлым свеце. Трохі падумаўшы, Валерыя Ільінічна назвала кнігу-помнік «Я з вогненнай вёскі» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, «Апошнюю пастараль» таго ж Адамовіча. Назвала і імя Васіля Быкава. «А якія творы?» – «Усе!» – прагучаў адказ.

Пра быкаўскіх герояў Петрака і Сцепаніду са «Знака бяды» яна гаварыла, як вернік гаварыў бы пра апосталаў Пятра і Паўла. Хоць, як згадаць таго Петрака (у вядомым фільме Міхаіла Пташука яго бліскуча сыграў Генадзь Гарбук), – звычайны хутаранец, якіх былі тысячы ў Беларусі падчас вайны.

Валерыя Ільінічна надпісала мне тады сваю кнігу «Поэты и цари»: «Сябру Михасю Скобле от В.Новодворской. Живе Беларусь!». Выйшла з расійскім акцэнтам – як і цытаванне «Пагоні».

Непадкупнасць і зацятая бескампраміснасць Навадворскай у адстойванні сваіх перакананняў праявіліся яшчэ ў савецкія часы. Камуністычная ўлада запіхвала яе ў псіхбальніцу, садзіла ў турму, спрабавала адправіць у эміграцыю. Усё беспаспяхова. І ўлада змірылася. А апрануўшыся ў тогу дэмакратыі, ужо ў 1993-м, мела намер нейтралізаваць Навадворскую ордэнам. Тая ордэн не прыняла.

Згодна з яе перакананнямі, выходзіла, што кожны палітык павінен быць гатовы ў любы момант узысці на эшафот. Як наш Кастусь Каліноўскі, якога Навадворская без агаворак лічыла нацыянальным героем Беларусі. І сама марыла памерці на барыкадах, каб смерць сустрэць тварам у твар. На жаль, тая мара не спраўдзілася – памерла яна ў маскоўскай бальніцы ў 2014-м…

Падчас той памятнай сустрэчы ў Маскве Валерыя Ільінічна прызналася, што зберагае дома мяшэчак з беларускай зямлёй. А на развітанне, затрымаўшы маю руку ў сваёй, яшчэ раз працытавала «Пагоню» – радкі пра «Маці родную, Маці-Краіну».

Дзіўна, але гэты верш-гімн я ніколі не чуў з вуснаў беларускіх палітыкаў…

ДУХОЎНЫ СКАРБ

### «Жыровічы: пад святым Пакровам»

Выйшаў у свет энцыклапедычны даведнік "Жыровічы: пад святым Пакровам".

Сёлета споўнілася 500 гадоў з дня заснавання Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра і 550 гадоў з часу з'яўлення абраза Маці Божай Жыровіцкай, які прызнаны праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі цудатворным. Да юбілейнай даты выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выпусціла ў свет энцыклапедычны даведнік "Жыровічы: пад святым Пакровам", у стварэнні якога бралі ўдзел беларускія гісторыкі, багасловы і мастацтвазнаўцы. Складальнікам выступіў кандыдат багаслоўя, прарэктар Мінскай духоўнай семінарыі Аляксандр Слесараў. У кнізе каля 200 артыкулаў, яна багата ілюстравана. Наклад выдання, якое будзе цікава ўсім, хто неабыякавы да айчыннай гісторыі, – 1000 асобнікаў. Нагадаем, што Жыровічы штогод наведваюць да 40.000 паломнікаў і турыстаў з усяго свету. Планаваліся і шматлюдныя ўрачыстасці ў сувязі з юбілеем, аднак з-за пандэміі іх давялося адмяніць.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

